# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ

*Думаем пра кожнага - працуем разам!*




**Свабода!
Справядлівасць!
Салідарнасць!**

Бюлетэнь БСДП, г. Магілёў, №3, красавік 2013г.

**Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) - партыя большасці.**
Большасць – гэта наёмныя работнікі, моладзь, пенсіянеры і людзі з абмежаванымі магчымасцямі.

Наша партыя выступае за сацыяльную абароненасць гэтых груп грамадзян.

Большасць насельніцтва Беларусі складаюць жанчыны. БСДП – за рэальную роўнасць жанчын і мужчын.

**BSDP.ORG**
сайт прыхільнікаў БСДП (Грамады)

**bsdpps@tut.by**
адрас электроннай скрыні БСДП (Грамады)

## У МАГІЛЁВЕ ПАЧАЎСЯ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ЎВЯДЗЕННЕ ЗАКОНА "АБ ГРАМАДСКІХ СЛУХАННЯХ"

**Ініцыятарамі выступілі актывісты Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады).**

**Сацыял-дэмакраты лічаць, што прыняцце новага закона дэпутатамі парламента здолее сістэматызаваць існуючую юрыдычную тэрміналогію, ужываць дадзены закон ва ўсіх сферах жыццядзейнасці, дзе закранаюцца правы шэраговых грамадзян, а таксама пазбегнуць напружанасцяў у месцах сутыкнення інтарэсаў дзяржавы і звычайных людзей.**



Сябра Прэзідыума БСДП ад Магілёўскай вобласці **Ігар Барысаў** лічыць, што прыняцце Закона "Аб грамадскіх слуханнях" істотна знізіць колькасць гэтак званых "гарачых кропак", якія час ад часу ўзнікаюць на мапе не толькі Магілёва, аднак і краіны ў цэлым і заключаюцца ў супрацьстаянні інтарэсаў жыхароў і чыноўнікаў.

"У Магілёве ёсць шэраг прыкладаў таго, дзе чыноўнікі не ўлічваюць інтарэсы простых грамадзян. У выніку гэтага адбываліся стыхійныя мітынгі пратэсту, зборы подпісаў, напісанне скаргаў, а ў некаторых выпадках справы разглядаліся ў судзе", - гаворыць Ігар Барысаў.

**Сацыял-дэмакрат пераканаsuccessfully, што гэтыя "гарачыя кропкі" ствараліся з-за недасканаласці існуючага заканадаўства, карупцыі і ігнараванн я чыноўнікамі законных інтарэсаў грамадзян.**



Праваабаронца **Барыс Бухель** кажа, што Закон "Аб грамадскіх слуханнях" проста жыццёва неабходны. "Я аналізаваў існуючае заканадаўства. Узгадкі пра "грамадскія слуханні" прысутнічаюць у Водным кодэксе і Кодэксе "Аб Зямлі", а таксама ў экалагічным заканадаўстве. Паняцце "грамадскае абмеркаванне" прысутнічае ў заканадаўстве аб архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці. Аднак нейкага агульнага закона, які б цалкам задавольваў патрэбы грамадства і сістэматызаваў існуючыя паняцці, няма", - гаворыць Барыс Бухель.

Нагадаем, што напярэдадні збору подпісаў актывісты БСДП шырока абмяркоўвалі сваю ініцыятыву, у тым ліку праводзілі круглы стол, на якім прысутнічалі актывісты розных грамадскіх арганізацый і палітычных партый, а таксама жыхары гэтах званых "гарачых кропак". Пераважная большасць прысутных тады падтрымала ініцыятыву сацыял-дэмакратаў.

**Падпісацца пад Законам «Аб грамадскіх слуханнях» можна на стр.4**

# ЖЫХАР ВЁСКІ НЯДАШАВА-2 ПРАЦЯГВАЕ ЗМАГАЦЦА ЗА ДОСТУП ДА ВАДАСХОВІШЧА

**Судовая цяжба вяскоўца Дзмітрыя Яўстратава з мясцовым фермерам-дэпутатам Юрыем Коршунавым можа расцягнуцца на доўгія месяцы.**


На фота Дзмітрый Яўстратаў

1 красавіка адбылося пасяджэнне Магілёўскага абласнога суда, які, нечакана для большасці прысутных, адмяніў пастанову Ленінскага раённага суда Магілёва і адправіў справу на новы разгляд.

Суддзя Святлана Стальмахова палічыла, што передача зямлі агульнага карыстання, якая знаходзіцца на тэрыторыі вёскі Нядашава-2, фермеру, закранае інтарэсы мясцовых жыхароў. Раней суддзя Ленінскага раёна Магілёва Галіна Тарасава разглядала цяжбу вяскоўца Яўстратава і фермера Коршунава, аднак на трэці дзень судовага пасяджэння вынесла кур'ёзнае рашэнне: справа непадсудная, бо ў пытанні перадачы зямлі агульнага карыстання фермеру няма інтарэсу мясцовых жыхароў.

У той жа самы дзень Дзмітрый Яўстратаў атрымаў пісьмовы адказ з Генеральнай пракуратуры, у якім было сказана, што пытанне перадачы зямлі фермеру, без правядзення Грамадскіх слуханняў, можа быць разгледжанае ў судзе.

Сам Дзмітрый Яўстратаў не хавае радасці ад невялікай перамогі, расказвае вясковец:

"Я задаволены рашэннем Магілёўскага абласнога суда, бо нарэшце, на маю думку, з'явіліся нейкія праблескі ў пытаннях адпаведнасці заканадаўству, як у органах выканаўчай улады, так і ў судовай сістэме, бо наша патрабаванне цалкам зразумелае і простае — улічванне грамадскай думкі пры прыняцці рашэнняў".

Вясковец адзначае, што калі б у жыхароў вёскі не было інтарэсу, то яны бы сядзелі моўчкі і не пісалі б у розныя дзяржаўныя інстанцыі шматлікія індывідуальныя і калектыўныя скаргі, а таксама не даводзілі бы справу да суда, працягвае Дзмітры Яўстратаў:

**Яўстратаў адзначае, што калі б у жыхароў вёскі не было інтарэсу, то яны бы сядзелі моўчкі і не пісалі б у розныя дзяржаўныя інстанцыі шматлікія індывідуальныя і калектыўныя скаргі, а таксама не даводзілі бы справу да суда**

"У мяне не было ніякай перакананасці, што рашэнне абласнога суда будзе на нашу карысць. Я прыйшоў з жаданнем змагацца да канца, але быў перакананы, што судовае рашэнне будзе не на нашым баку. Цяпер у мяне з'явілася надзея на тое, што, можа быць, і ў нашай дзяржаве просты чалавек можа адстаяць свае законныя правы".

Праваабаронца Барыс Бухель кажа, што гэта рэдкі выпадак, калі абласны суд адмяняе рашэнне суда першай інстанцыі:

"Я задаволены судом. На маю думку, усё было адэкватным. Суд паступіў правільна ў межах існуючага заканадаўства — адправіў справу на разгляд у суд першай інстанцыі на стадыю ўзбуджэння справы. У дадзеным выпадку я лічу, што суддзя Тарасава з Ленінскага суда проста пабаялася разглядаць гэтую справу, бо там было шмат парушэнняў заканадаўства і неабходна было бы выносіць шмат прыватных вызначэнняў у адрас розных чыноўнікаў і ўстаноў і таму яна проста вырашыла сысці ад адказнасці".


На фота Барыс Бухель

Нагадаем, што ў 2011 годзе жыхары вёскі Нядашава-2 Магілёўскага раёна даведаліся пра тое, што мясцовыя ўлады без уліку думкі грамадзян перадалі ў пажыццёвую арэнду мясцоваму фермеру-дэпутату Юрыю Коршунаву зямлю агульнага карыстання. Той разараў яе і засадзіў кукурузай, тым самым абмежаваў вяскоўцам свабодны доступ да вадаёма. Пракуратура прызнала факты парушэння заканадаўства. Было пакарана некалькі чыноўнікаў з райвыканкама і аблвыканкама, аднак зямля ўсё адно застаецца ў валоданні фермера.

# ИНИЦИАТИВУ ЗАКОНА “ОБ ОБЩЕСТВЕННЫХ СЛУШАНИЯ” ОБСУДИЛИ В МОГИЛЁВЕ

**Мероприятие прошло 27 марта в конференц-зале Технопарка. Оно собрало 20 совершенно разных людей, объединённых проблемой равнодушного отношения властей к мнению горожан.**

Участники прошедшего в Могилеве круглого стола, организованного активистами Белорусской социал-демократической партии (Грамада), заявили о необходимости принятия в Беларуси закона об общественных слушаниях.

«В Беларуси законодательно не установлена единая форма участия общественности дворов, улиц, микрорайонов, административно-территориальных единиц и общественных организаций в обсуждении общественно значимых решений, инициируемых властями и самими жителями», — говорится в обращении, принятом на круглом столе.
По словам лидера могилевских социал-демократов **Игоря Борисова**, выступить с обращением подтолкнули несколько ситуаций, когда значимые решения относительно строительства и использования земли были приняты властями без учета мнения общественности. Это касалось передачи в аренду фермеру земли общественного пользования в д. Недашево-2 Могилевского района, строительства жилого дома в могилевском м-не Юбилейный, плана по сносу частных домов в районе Чапаевка. Проведя мониторинг законодательства, инициаторы круглого стола пришли к выводу, что в стране нет единого нормативно-правового документа, который бы регулировал проведение общественных слушаний во всех сферах жизнедеятельности, не выработана также единая терминология. Так, в одних законах говорится об общественных обсуждениях, в других — об общественных слушаниях.



**На фото выступает Игорь Борисов**

В свою очередь руководитель общественной инициативы «Грамадскі магістрат» Александр Силков не видит необходимости в таком законе, поскольку, по его мнению, любой закон власть примет не в пользу общественности. «Считаю, что из всех пунктов обращения необходимо оставить требование об обеспечении проведения общественных слушаний в форме, доступной и удобной для всех граждан», — сказал он, подчеркнув, что надо стараться более активно работать в рамках закона о местном самоуправлении, требуя, при необходимости, изменений в нем.

Эта позиция не была поддержана собравшимися.

Обсуждая проведение нынешних общественных слушаний, участники круглого стола пришли к выводу, что пока такие слушания носят формальный характер, и чиновники, организующие их, сами плохо представляют, зачем нужна эта процедура.

За необходимость принятия закона об общественных слушаниях будут собраны подписи, после чего обращение будет направлено в могилевские городской, районный и областной Советы депутатов, а также в Палату представителей.

**Принятие Закона "Об общественных слушаниях" решит проблемы с игнорированием властей интересов граждан. Подготовленное активистами БСДП обращение будет способствовать принятию этого закона. Мы призываем поддержать нашу инициативу.**

# У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ПРАІГНАРАВАЛІ ПАЗІЦЫЮ ПРАЦОЎНАГА КАЛЕКТЫВА

**У вёсцы Лябдзянка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці зямлю замацаваную за СВК «Лябдзянка» перадалі паляўнічай гаспадарцы «Паўлінка»**

Жыхар вёскі Лябдзянка Валеры Вусік адпрацаваў у мясцовым калгасе галоўным ветэрынарным лекарам болей за 30 год і ведае ўсё пра жыццё кіраўніцтва і шматлікія факты карупцыі з яго ўзелам.

Адным з такіх фактаў з'яўляецца перадача 50 Га зямлі, якое належыла СВК “Лябдзянка”, паляўнічай гаспадарцы “Паўлінка” у парушэнне існуючага заканадаўства – ніхто не пытаў у калгаснікаў іх дазволу на гэта, не праводзіўся агульны сход, як таго патрабуе статут калгаса.

Вясковец сцвярджае, што зямлю аддалі ўсяго за 50 мільёнаў рублёў разам з засеяным на ёй ураджаем. Летась ураджай сабралі камбайнамі СВК “Лябдзянка”. Кіраўніцтва “Паўлінкі” не ўдарыўшы палец аб палец атрымала ад гэтай схемы велізарныя грошы. Дзіўна тое, што грошы за зямлю калгасу яно не заплаціла дагэтуль.

Мясцовы жыхар кажа, што выкрыў гэты факт карупцыі і напісаў аб гэтым у розныя кантралюючыя органы. Аднак толькі пасля артыкула ў газеце «Магілёўскі выбар» праваахоўнікі з аддзелу па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі пачалі праводзіць праверку.

# О НЕОБХОДИМОСТИ ПРИНЯТИЯ СПЕЦИАЛЬНОГО ЗАКОНА «ОБ ОБЩЕСТВЕННЫХ СЛУШАНИЯХ»

**На данный момент в стране нет единого нормативно-правового документа, который бы регулировал проведение общественных слушаний во всех сферах жизнедеятельности.**

### Обоснование

К примеру, в Кодексе «О земле» указано, что решения по регулируемым им вопросам, которые затрагивают интересы всех жителей соответствующих территорий, должны приниматься гласно и с учётом их общественного мнения. В «Водном кодексе», статус общественности существенно снижен. В нём уже указано, что граждане и общественные объединения имеют право в установленном порядке принимать участие только в рассмотрении местными Советами депутатов, органами государственного управления таких общественно значимых вопросов. Но в нём ничего не сказано, что власти обязаны принимать такие решения с учётом их общественного мнения.

В Беларуси только в экологическом законодательстве и законодательстве об архитектурной, градостроительной и строительной деятельности установлены отличающиеся друг от друга порядки, позволяющие жителям напрямую в заметно разной степени самостоятельно влиять на местные Советы и на органы государственного управления соответствующего уровня при принятии ими решений по вопросам, которые эти жители считают общественно значимыми. При этом в этих законодательствах для обозначения одного и того же процесса используются разные термины. В экологическом законодательстве используется международно признанный термин «общественные слушания», а в законодательстве об архитектурной, градостроительной и строительной деятельности – «общественные обсуждения». В других же законодательных документах и Кодексах учёт общественного мнения только продекларирован, но порядок его учёта не установлен.

Иными словами в Беларуси законодательно не установлена единая форма участия общественности дворов, улиц, микрорайонов, админи-стративнотерриториальных единиц и общественных организаций в обсуждении общественно значимых решений, инициируемых властями и самими жителями.

### Законодательная основа

Основа такого закона имеется в первую очередь в экологическом законодательстве. В нём на основании Орхусской конвенции, ратифицированной Беларусью, процедура проведения общественных слушаний урегулирована в Инструкции о порядке проведения оценки воздействия на окружающую среду планируемой хозяйственной и иной деятельности в Республике Беларусь (далее – Инструкция ОВОС), утверждённой Постановлением Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь от 17 июня 2005 г. №30. В этой Инструкции ОВОС общественность признается одним из обязательных субъектов оценки воздействия принимаемых решений на экологическое состояние окружающей среды. Орхусская конвенция – Конвенция Европейской экономической комиссии ООН о доступе к информации, участии общественности в процессе принятия решений и доступе к правосудию по вопросам, касающимся окружающей среды.

Также позднее Постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 01 июня 2011 г. №687 утверждено Положение о порядке проведения общественных обсуждений в области архитектурной, градостроительной и строительной деятельности. Но в нём возможности общественности влиять на власти при принятии общественно значимых решений по сравнению с Инструкцией ОВОС существенно уменьшены, в том числе и за счёт подмены термина «общественные слушания» на «общественные обсуждения» – чтобы уйти от влияния и требований Орхусской конвенции.

Будущий Закон «Об общественных слушаниях» должен обеспечить необходимые условия для непосредственного эффективного участия граждан в принятии общественно значимых решений во всех сферах жизни общества по интересующим их конкретным проблемам.

## ПАВАЖАНЫЯ МАГІЛЁЎЦЫ!

Калі вы неабыякавыя да нашай ініцыятывы і жадаеце яе падтрымаць - высылайце нам свае подпісы па адрасу: г.Магілёў, вул. Будаўнікоў д.3 кв.2 з пазнакай **«ініцыятыва БСДП»**. Вы таксама можаце звязацца з нашымі актывістамі па тэл. **+375 44 473 61 63**

Больш падрабязна аб Законе «Аб грамадскіх слуханнях» чытайце на старонках сайта газеты «НАШ Магілёў» **gazetanm.eu**

| № | ФИО | Адрес, телефон | Дата | Подпись |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |

**САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ**

**Галоўны рэдактар ВІТОЛЬД НЯЎРЫДА**

Бюлетэнь Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)
Надрукавана ў Магілёве на ксераксе. Наклад 299 асобнікаў
Распаўсюд бясплатны.
Выраблены пры тэхнічнай падтрымцы рэдакцыі газеты «НАШ Магілёў»
e-mail: gazetanm.eu@gmail.com